Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by

Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК. Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Выдаецца са снежня 1994 года

№37 (597)
15 верасня 2011 года.
Кошт свабодны.



Аляксандр Рымчонак.

**Сапраўднае шчасце – дапамагаць другім.**
*Чытайце матэрыял на стар. 4.*



Рэклама ў газеце «ВГ», тэл.: 8(029) 813-99-99

## Глыбоцкі раён

# Зноў запатрабаваныя кансервы

■ Станіслаў Раманчук

**Канец лета і пачатак восені, калі людзі актыўна нарыхтоўваюць дары садоў і агародаў, – самы напружаны час і для працаўнікоў Глыбоцкага кансервавага завода.**

Праўда, сёлета адно з буйнейшых айчынных прадпрыемстваў галіны змяніла сваю назву на арыгінальнае “Купцовъ” і апошнім часам перайшло на кругласутачную працу ў 3 змены. Пад новай гандлёвай маркай па-ранейшаму запатрабаваны асноўны від прадукцыі завадчан – кансерваваны зялёны гарошак. Парадавала ў гэтым годзе ягоная ўраджайнасць: амаль па 35 цэнтнераў з кожнага гектара. Удалося вырашчаны гарох убраць у аптымальныя тэрміны, да пачатку праліўных дажджоў з дапамогай тэхнікі мясцовых гаспадарак. Яна аказалася вельмі дарэчы, паколькі стаў перыядычна даваць збоі стары галандскі камбайн для ўборкі гароху. Закупленая раней венгерская лінія ў сваю чаргу спраўна выдавала да 4 тон у гадзіну неабходнага кожнай гаспадыні прадукту, які выраблялі, акрамя бляшанак, і ў шкляных слоіках. На гэту і іншую прадукцыю глыбачан ёсць попыт як на ўнутраным рынку, так і сярод фірм Расіі, Туркменіі. Да іх цяпер далучыліся і спажыўцы з Казахстана. Як і раней, глыбачане разлічваюць нядрэнна зарабіць на выпуску сокаў маркі “Хорошо”, ікры кабачковай. На вытворчасці актыўна выкарыстоўваецца мясцовая сыравіна, асабліва яблыкі з Глыбоцкага і суседніх раёнаў. Рост выпуску прадукцыі дазволіў заводу сёлета павысіць заробкі і нарэшце атрымаць прыбыткі ад сваёй дзейнасці, якія за 7 месяцаў перавысілі паўмільярда рублёў.

## Пастаўскі раён

# Няма каго вучыць

■ Кастусь Александровіч

**Непрыкметна праляцелі летнія школьныя канікулы, для хлопчыкаў і дзяўчынак пачаліся звыклыя вучэбныя будні.**

Але шмат дзе па краіне дзетак у глыбінцы мала, таму прыйшлося па дрэннай завядзёнцы павесіць на школьных будынках замкі і закрыць назаўсёды школы. Не стаў выключэннем і Пастаўскі раён, дзе да 1 верасня спынілі сваю дзейнасць Балаёўская базавая школа і пачатковыя школы ў некалі буйных вёсках Груздава, Норыца і Шыркі. Да нядаўняга часу тры з іх з’яўляліся нават цэнтральнымі сядзібамі калгасаў, але вяскоўцаў становіцца ўсё меней, і проста некаму стала хадзіць у школу. Праўда, у вёсцы Груздава ёсць яшчэ нейкая перспектыва: летась там адкрылі дзіцячы сад, і ён працягвае дзейнічаць. А вось у цэлым па Пастаўшчыне абстаноўка трывожная, на працягу 5 апошніх гадоў колькасць школьнікаў скарацілася больш чым на 1200 хлопчыкаў і дзяўчынак. У выніку эканамічна нематэзгодна стала ўтрымліваць такія малакамплектныя школы, дзе меней за 20 вучняў. У раёне з 2008 года закрылі яшчэ 6 базавых і пачатковых школ, ліквідавалі дапаможную спецшколу-інтэрнат у гарпасёлку Варапаева. Самае сумнае, што такая практыка можа прадоўжыцца і ў далейшым, бо няма каго вучыць. Цяпер да новых месцаў вучобы наладжаны падвоз вучняў з закрытых школ, усе забяспечаны праязнымі білетамі.

## Докшыцкі раён

# Кожны аб’ект – важны

■ Чэслаў Якубовіч

**Крызісныя з’явы ў беларускай эканоміцы адбіліся на многіх, але пакуль не зачапілі калектыў адной з лепшых у трэсце “Полацксельбуд” – ДКУСП “Докшыцкая ПМК-52”.**

У будаўнікоў з райцэнтра па-ранейшаму заказаў хапае, толькі паспявай іх выконваць у тэрмін і з належнай якасцю. Нядаўна яны здалі ў эксплуатацыю вельмі важны свой аб’ект: сучасны торфаперапрацоўчы завод “Віцебскаблгаза” ў рабочым пасёлку Круляўшчызна. Ён глядзіцца вельмі прыгожа: будаўнікі якасна выканалі сваю працу, а таксама заканчваюць аддзелку ўзведзенага 24-кватэрнага жылога дома. Дапамагае будаўнікам трымацца на плаву і даволі магутная матэрыяльна-тэхнічная база, вялікі парк тэхнікі. Неўзабаве будзе запушчаны ў эксплуатацыю і новы свой растворабетонны вузел прадукцыйнасцю да 25 кубаметраў таварнага бетону ў гадзіну. Увогуле, будаўнікі з Докшыц пры ўзвядзенні розных аб’ектаў – ад жылля да сучасных аўтастанцый ў райцэнтры і гарпасёлку Бягомль, гасцініцы, кінаканцэртнай залы – стараюцца як мага меней супрацоўнічаць з субпадрадчыкамі. Падчас будаўніцтва наладзілі выпуск шклопакетаў з ПВХ, лоджый-купэ для балконаў жылых дамоў, а таксама вадасточных сістэм і поўнасцю сталярнай камплектацыі аб’ектаў. Цяпер бударганізацыя ў раёне стала адным з самых буйных працоўных калектываў. У ёй працуюць ужо болей за чатырыста чалавек.



# Лічба нумара

**337** столькі месц для набору студэнтаў бюджэтнай формы навучання, па дадзеных Міністэрства адукацыі РБ, засталіся вакантнымі ў беларускіх ВНУ сёлета пасля заканчэння ўступнай кампаніі. Новы навучальны год пачалі амаль 90 тысяч студэнтаў-першакурснікаў, якія атрымалі студэнцкія білеты ў 45 дзяржаўных і 10 прыватных інстытутах, акадэміях і універсітэтах. Айчынныя ВНУ не змаглі залічыць на вучобу 134 бюджэтных студэнтаў 1-га курса дзённай формы навучання і 203 завочнікаў.

І гэта пры тым, што шэраг ВНУ прымалі дакументы ад абітурыентаў з вельмі нізкім узроўнем ведаў і нізкімі прахаднымі баламі. Да прыкладу, у Міжнародны дзяржаўны экалагічны ўніверсітэт імя А. Сахарава на адну са спецыяльнасцей быў залічаны абітурыент з сярэднім балам атэстата 3,2. Дэмаграфічная сітуацыя ў краіне па-ранейшаму складаная, у выніку колькасць месцаў у вышэйшых навучальных установах на 40 % перавышае колькасць выпускнікоў агульнаадукацыйных школ. Прыйшлося пахвалявацца і прыёмным камісіям сярэдне-спецыяльных навучальных устаноў, ПТВ, каб не сарваць свае планы прыёму навучэнцаў.

Аднак пры гэтым большасці сем’яў першакурснікаў ВНУ цяпер прыходзіцца клапаціцца, як вывучыць сваіх дзяцей. Справа ў тым, што з амаль 90 тысяч студэнтаў 1-га курса толькі 25. 073 вучацца бясплатна за кошт сродкаў бюджэту. Аднак ніхто не звяртае ўвагу на гэту не зусім нармальную сітуацыю, як і на тое, што няма месцаў для пражывання моладзі ў студэнцкіх інтэрнатах ад 40 да 80 % у залежнасці ад профілю ВНУ і яго месцазнаходжання ў сталіцы альбо на перыферыі. Хоць навучальныя ўстановы стараюцца выплочваць матэрыяльную кампенсацыю сваім найбольш бедным студэнтам у памеры некалькі дзясяткаў тысяч рублёў, але пры цяперашняй дарагавізне гэта мізер.

Асабліва складаная сітуацыя з дахам для студэнтаў склалася ў самым прэстыжным Белдзяржуніверсітэце, дзе для амаль 17 тысяч студэнтаў выдаткавалі толькі 5,5 тысяч месц у 7 інтэрнатах. Пры гэтым сёлета колькасць беларускіх першакурснікаў па краіне зменшылася на 3,2 тысячы чалавек. Прыватныя ВНУ таксама зменшылі набор на 800 чалавек. Адзінае, што ўступная кампанія прайшла спакойна, арганізавана, не было зафіксавана ніводнага выпадку хабару, сур’ёзных інцыдэнтаў падчас цэнтралізаванага тэсціравання і прыёмных экзаменаў. Аднак і сярэдні конкурс пры паступленні ў ВНУ знізіўся і склаў толькі 1,9 чал. на месца.

Быў зафіксаваны і ўнікальны выпадак, калі не падалі ніводнай заявы на спецыяльнасць “сацыялогія” ў Міжнародным гуманітарна-эканамічным універсітэце. У Інстытут прадпрымальніцкай дзейнасці паступілі ўсе, хто падаў сюды дакументы. Ніякай барацьбы на ўступных экзаменах не было на фізіка-матэматычныя спецыяльнасці, а абітурыенты (амаль 70 %) другі год запар завалілі гэтыя прадметы на ЦТ, атрымаўшы меней за 20 балаў за 100. У глыбінцы цяпер не хапае такіх выкладчыкаў у школах, а таксама маладых настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры, нямецкай мовы. Але прахадны бал для будучых спецыялістаў быў вельмі нізкі, а ў Полацкім дзяржуніверсітэце конкурс знізіўся да 0,2 чалавека на месца.

Спецыялісты адзначаюць, што падае прэстыж большасці гуманітарных спецыяльнасцей педагагічных ВНУ, асабліва ў Мінску. А вось прафесіі дызайнераў, юрыстаў, перакладчыкаў, урачоў карыстаюцца папулярнасцю, на асобных факультэтах прахадны бал наблізіўся да 370. У будучым плануецца адмяніць ільготы пры паступленні ў ВНУ для сельскіх абітурыентаў, каб яны не выцяснялі пры паступленні абітурыентаў-гараджан са значна больш высокім узроўнем ведаў. Дзяржкамісія па кантролі за ходам уступнай кампаніі ў 2012 годзе прапанавала павялічыць час для правядзення цэнтралізаванага тэсціравання.

Пакуль пачаўся новы навучальны год, а для многіх студэнтаў па даўняй традыцыі не з заняткаў у аўдыторыях, а з выезду на сельгасработы дапамагаць вяскоўцам убіраць вырашчаны ўраджай. Вышэйшая адукацыя стала ў РБ па-сутнасці масавай з’явай, колькасць студэнтаў ВНУ амаль у 2 разы вышэйшая за навучэнцаў іншых навучальных устаноў, што ўскладняе сітуацыю на рынку працы.

## Надвор’е ў Глыбокім  www.rp5ru

| | чацвер 15.09.11 | | | | пятн. 16.09.11 | | | | сб. 17.09.11 | | | | нядз. 18.09.11 | | | | пн.19.09. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература, °С | +11 | +14 | +14 | +11 | +9 | +11 | +13 | +11 | +7 | +10 | +13 | +10 | +6 | +11 | +16 | +14 | +13 | +16 | +19 |
| Ціск, мм | 742 | 743 | 742 | 742 | 742 | 743 | 744 | 745 | 746 | 748 | 747 | 747 | 747 | 747 | 746 | 745 | 743 | 743 | 743 |
| Вільготнасць, % | 77 | 80 | 75 | 80 | 85 | 89 | 66 | 83 | 92 | 84 | 63 | 91 | 94 | 82 | 58 | 80 | 81 | 77 | 81 |
| Вецер м/сек | З 7 | З 7 | Ю-З 9 | Ю-З 7 | З 7 | З 6 | З 7 | З 3 | З 4 | З 4 | З 4 | Ю 2 | Ю 3 | Ю 4 | Ю 6 | Ю-В 7 | Ю-В 7 | Ю 8 | Ю 7 |
| | | 06:41 | 19:27 | | | 06:42 | 19:25 | | | 06:44 | 19:22 | | | 06:46 | 19:20 | | 06:48 | 19:17 | |

## Дзень за днём

**Восень пачалася сёлета з далейшага росту цэн, яшчэ ў жніўні інфляцыя перавысіла 50-працэнтны ўзровень, але добра, калі напрыканцы года яна спыніцца на ўзроўні 75 %. Незалежна ад узроўню даходаў беларускіх бюджэтнікаў і пенсіянераў вырашана аказаць ім аднаразовую дапамогу ў памеры 500 тысяч рублёў. Да сярэдняй зарплаты ў Беларусі збіраюцца з новага 2012 года прывязваць разлік штомесячных дзіцячых дапамог. Захад вітаў памілаванне першых 13 асуджаных у краіне па справе падзей 19 снежня, але назваў гэтыя меры недастатковымі. Расія на гэты конт маўчыць.**

# Важнейшыя навіны свету

**Лівія.** Апазіцыйныя сілы краіны сталі святкаваць перамогу , хоць прыхільнікі экс-дыктатара Муамара Кадафі яшчэ супраціўляліся, урад НПС прызналі ўжо 60 дзяржаў.

**Сірыя.** У турмах краіны з пачатку антыўрадавых выступленняў да смерці замучылі, па дадзеных праваабарончай арганізацыі Amnesty International, не менш 88 чалавек.

**Германія.** Самая моцная краіна Еўропы, як заявіла канцлер Ангела Меркель, не будзе браць на сябе даўгі іншых дзяржаў зоны еўра і пачынаць выпуск сваіх еўрабондаў.

**Расія.** Галоўнай сенсацыяй прайшоўшага ў падмаскоўным Жукоўску Х міжнароднага авіясалона МАКС-2011 сталі палёты рускага суперзнішчальніка 5-га пакалення Т-50.

**Кітай.** Рост цэн на 6,5 % прымусіў урад краіны перагледзець сваю інвестыцыйную палітыку і пачаць малапрыемнае ўмацаванне нацыянальнай валюты – юаня (6,4 за 1 $).

**Англія.** Эколагаў устрывожыла, што ў Паўночным моры адбылася буйнейшая за апошнія 10 гадоў уцечка 216 тон нафты з платформы адной з брытанскіх здабываючых кампаній.

**Бельгія.** ЕС адмяніў антыдэмпінгавыя меры і абмежаванні ў адносінах паставак калійных угнаенняў беларускай і расійскай вытворчасці ў краіны Еўрасаюза.

**Італія.** Урад пачаў рэалізацыю плана мер жорсткай эканоміі сродкаў бюджэту на 45 млрд. еўра за 2 гады, узраслі падаткі на даходы, пенсійны ўзрост для жанчын, меней стала свят.

**Самалі.** Да голаду у рэгіёне дабавілася эпідэмія халеры, Сусветны банк адзначыў, што больш за 12 млн. чалавек з дзяржаў Афрыкі маюць патрэбу ў тэрміновай дапамозе ААН.

**Іспанія.** На фоне цяжкасцей у эканоміцы ўрад прызначыў на 20 лістапада датэрміновыя выбары парламента, гэты дзень прыпаў на 46 гадавіну канца дыктатуры генерала Франко.

**Катар.** Эмір шэйх Хамад бэн Халіф паабяцаў ужо зімой прыехаць у Мінск і падпісаць дагавор з РБ па ўзвядзенні каля сталіцы Катара завода складаных угнаенняў на 2 млн. тон.

**Іран.** Краіна падпісала з Сірыяй і Іракам мемарандум аб узаемаразуменні пры будаўніцтве свайго газаправода ў Еўропу працягласцю 5 тысяч км з радовішча Паўднёвы Парс.

**Украіна.** Сусветна вядомы баксёр і лідар партыі УДАР Віталь Клічко назваў судовы працэс над экс-прэм'ерам Ю. Цімашэнкай з самага пачатку палітычна заангажаваным.

**Эстонія.** У 19 з 27 краін, членаў ЕС, знізілася сёлета з пачатку года беспрацоўе, найбольш - сярод эстонцаў ( з 18,8 да 13,8 %), найлепшая сітуацыя ў Аўстрыі, Галандыі ( 4 % ).

**Расія.** "Газпрам" праклаў па дне Фінскага заліву заключны км газаправода "Паўночны паток", пракачку газу па ягонай першай трубе збіраецца пачаць сёлета напрыканцы года.

**Польшча.** З дапамогай грамадскіх арганізацый і улад краіны ў Гданьскай міжнароднай школе ўслед за англійскім адкрылася беларускае аддзяленне з навучаннем па-беларуску.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** У Доме правасуддзя Вярхоўны суд РБ сёння пачаў разгляд у адкрытым судовым пасяджэнні крымінальнай справы аб выбуху ў Мінскім метро, па ёй праходзяць 2 хлопцы.

**Барысаў.** 3 мэтай знайсці стратэгічнага інвестара завод медпрэпаратаў зноў выставіў свае акцыі на продаж на працягу 60 дзён, першая такая спроба летам завяршылася правалам.

**Гродна.** Разам з правядзеннем штогадовай шматгаліновай выстаўкі-ярмаркі "Еўрарэгіён "Нёман" – 2011" горад падрыхтаваў і ІІІ міжнародны эканамічны інвестыцыйны форум.

**Брэст.** Толькі 2 новыя школы адкрыліся ў вобласці ў гэтым навучальным годзе, аднак у глыбіні закрылі 16 малакамплектных навучальных устаноў, з якіх 3 - сярэднія школы.

**Мінск.** Беларускія ўрачы ў сталічным РНПЦ анкалогіі і медрадыялогіі дапамаглі нарадзіць неданошанага хлопчыка вагой 1900 г хворай жанчыне з ракам лёгкага 4-й ступені.

**Маладзечна.** Толькі пасля ўмяшання ўрада ўдалося вырашыць праблемы з дэфіцытам цэменту для шэрагу аб'ектаў пампезных юбілейных, 15-х рэспубліканскіх "Дажынак".

**Мінск.** На брацкіх ваенных могілках часоў І Сусветнай вайны асвяцілі капліцу ў гонар іконы св. Багародзіцы, тут пахаваны 5 тысяч воінаў, памерлых ад ран у шпіталях Мінска.

**Гродна.** У старэйшым заапарку краіны пачалі ўзводзіць самы высокі 3-павярховы вальер для сланоў, на рэканструкцыі іншых аб'ектаў занята цяпер штодзень да 300 будаўнікоў.

**Мінск.** Пры гендырэкцыі нацыянальнай кінастудыі "Беларусьфільм" пачаў працаваць савет мэтраў з 12 самых знакамітых дзеячаў беларускай культуры і кінематографа.

**Мір.** У замкавым комплексе прайшоў І музычны фестываль памяці славутага земляка, сусветна вядомага кампазітара Мікалая Набокава, які плённа працаваў у ЗША.

**Мінск.** У Белдзяржцырку пачаліся да канца года выпрабаванні навінкі МАЗа – грузавіка-аўтапоезда з капотнай кампаноўкай грузавіка магутнасцю 600 конскіх сіл, даўжынёй 18 м.

**Мсціслаўль.** У брацкай магіле ўрачыста перазахавалі астанкі яшчэ 185 савецкіх салдат і афіцэраў, знойдзеныя пра правядзенні ў райцэнтры чарговых земляных работ.

**Пінск.** Улады Брэстчыны вырашылі назваць адну з вуліц горада імем кардынала Казіміра Свёнтка, які стаў тут святаром, самааддана і ахвярна працаваў для хрысціян-беларусаў.

**Жодзіна.** Пражываючы каля горада ў ладным доме, народны артыст РБ Якаў Навуменка падрыхтаваў свой новы альбом з 17 народных песень у сучаснай аранжыроўцы.

**Мінск.** Федэрацыі хакея Беларусі ўдалося дамовіцца і падпісаць кантракт на 3 гады працы з новым галоўным трэнерам зборнай, знакамітым фінскім спецыялістам Кары Хейкіля.

# Бясплатная вакцынацыя супраць грыпу ў Беларусі пачнецца з верасня



■ *БелаПАН.*

**Бясплатная вакцынацыя супраць грыпу ў Беларусі пачнецца з верасня і па плане закончыцца да 1 лістапада, паведаміла галоўны эпідэміёлаг Міністэрства аховы здароўя Іна Карабан на прэс-канферэнцыі ў Мінску.**

Імунізацыя за кошт сродкаў рэспубліканскага і мясцовых бюджэтаў будзе праводзіцца кітайскай вакцынай «Флюваксін», якая ўпершыню была выкарыстана ў Беларусі летась. Бясплатна прышчэпку будуць рабіць хворым з хранічнай паталогіяй органаў дыхання, сардэчна-сасудзістай, эндакрыннай сістэмы, грамадзянам групы павышанай рызыкі. Акрамя таго, бясплатная імунізацыя будзе прапанавана дзецям.

Карабан адзначыла, што вакцына «Флюваксін» «добра зарэкамендавала сябе». Згодна з інфармацыяй медустаноў, атрыманай пасля кампаніі вакцынацыі, вакцына добра пераносілася, пабочных рэакцый, павышэння тэмпературы на яе ўвядзенне практычна не было. Спецыяліст прывяла ў якасці прыкладу вакцынацыю супрацоўнікаў Міністэрства аховы здароўя, 87% якіх былі прышчэпленыя менавіта гэтай вакцынай. Ніхто з іх на грып не захварэў, скаргаў на пабочныя рэакцыі не было.

Усяго сёлета плануецца прышчапіць каля 3 млн. чалавек (каля 30% насельніцтва), значная частка з якіх будзе прышчэплена за кошт уласных сродкаў і сродкаў прадпрыемстваў. Гэта прыкладна на 10% вышэй за паказчыкі 2010 года. Карабан заклікала грамадзян вакцынавацца ад грыпу, паколькі «даказана, што вакцынацыя абараняе ад ускладненняў захворвання».

Прагназуецца, што эпідэмія грыпу сёлета будзе сярэдняй ступені інтэнсіўнасці і пройдзе ў студзені-лютым. Паводле слоў галоўнага эпідэміёлага, у новым эпідсезоне будуць цыркуляваць тыя ж разнастайнасці вірусу грыпу, што і ў 2010 годзе. Прагнозы спецыялістаў будуюцца , зыходзячы з сітуацыі ў краінах паўднёвага паўшар'я, дзе ўздым захворвання пачынаецца вясной.

Летась з кастрычніка па май у Беларусі на грып перахварэлі 210 тысяч чалавек, а на ВРВІ — каля 3 млн. чалавек.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Пасля павелічэння ў 2 разы пасеваў бульбы гаспадаркі вобласці атрымаюць сёлета больш за 170 тыс. тон "другога" хлеба, горад на зіму набудзе да 50 тыс. тон клубняў.

**Глыбокае.** У агульны севаабарот па раёне ўключылі сёлета яшчэ 700 зямельных надзелаў насельніцтва, іх соткі абмалацілі першымі камбайны прафліцэя.

**Віцебск.** На фоне значнага росту вырабу і экспарту піва з РБ мясцовы піўзавод "Дзвінскі бровар" абласнога цэнтра знізіў выпуск пеннага напою за 7 месяцаў сёлета на 76,9 %.

**Верхнядзвінск.** Камбайнеры сельгаспрадпрыемства "Прудзінкі" Уладзімір Лапкоўскі і Сяргей Гапановіч сталі лепшымі на жніве на Віцебшчыне сярод дарослых і сярод моладзі.

**Сянно.** На хлебазаводзе мясцовага райпа завяршаецца рэканструкцыя, у будынку замянілі падлогу, перакрылі дах, пачалі ўстанаўліваць новае абсталяванне для выпечкі хлеба, булак.

**Орша.** Адзіная ў РБ фірма "Каліна" па вырошчванні 23 відаў лекавых раслін і траў на 75 гектарах пачала ўзвядзенне новага прамысловага корпуса, з іх робіць медыкаменты.

**Паставы.** Падчас манітарынгу ўмоў працы гандлю санслужба з 11 праверaных магазінаў горада і раёна ў 7 выявіла амаль 150 кг прадуктаў, тэрмін годнасці якіх закончыўся.

**Лепель.** Райцэнтр адзначыў чарговы Дзень горада, 572-ю гадавіну, тут прайшлі выстава спартыўных машын і этап чэмпіянату РБ па джып-трыале, адкрылі помнік манецe "пятак".

**Полацк.** Вечарам на трасе на сталіцу каля горада міліцыя затрымала фуру, на якой жыхар Мінскага раёна вёз амаль 17 тон таматаў без дакументаў, увесь тавар быў канфіскаваны.

**Віцебск.** На тэрыторыі прадпрыемства "Вясна" адкрыўся першы ў Беларусі прытулак для размяшчэння 200 бяздомных жывёлін, асноўным спонсарам аб'екта стаў мясакамбінат.

**Браслаў.** Пры спробе незаконнай лоўлі рыбы раніцай на беразе возера Дрывяты міліцыя затрымала браканьера, 22-гадовага вадалаза мясцовага таварыства выратавання на водах.

**Лёзна.** Да чарговых абласных "Дажынак" у райцэнтры першымі капітальна абнавілі кінатэатр і кулінарыю, вялікі фронт работ на ўнівермагу, які стане гандлёвым цэнтрам.

**Шуміліна.** Раённы суд пакараў 6 месяцамі арышту мясцовага жыхара за паўторнае незаконнае набыццё паляўнічай стрэльбы і за забойства з яе дзіка, зброю канфіскавалі.

**Віцебск.** На карысць дзяржавы супрацоўнікі мясцовай мытні канфіскавалі 18,2 тысячы $, якія прадпрымальны кантрабандыст з РБ спрабаваў вывезці за мяжу ў тайніку іншамаркі.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Сапраўднае шчасце – дапамагаць другім



■ Яўген Самсонаў

Упэўнены: памяць аб дабрачыннай акцыі, якую ладзілі 8 верасня 2011года незалежныя прадпрымальнікі кампаніі АМВЭЙ для дзяцей Глыбоцкага дзяржаўнага раённага сацыяльнага прытулку (в. Станулі), ды і для самых валанцёраў застанецца надоўга, а мабыць, і на ўсё жыццё.

Дзяржава і грамадства, бясспрэчна, надае шмат увагі выхаванцам прытулку, але ці кожны з нас можа ўявіць, што на душы ў сіраты, якое пазбаўленае бацькоўскай ласкі, з якімі думкамі ён засынае і прачынаецца. Гаротны лёс і так досыць паздзекаваўся над імі. І што б там ні казалі, але думкі і мары гэтых дзяўчынак і хлапчукоў скіраваныя да бацькоў, да мілых сэрцайку мясцін, дзе нарадзіліся і рабілі першыя крокі. Менавіта яны цяпер (ды і назаўжды) застануцца ў свядомасці дзяцей самымі блізкімі і дарагімі. Бо ніводзін, нават самы лагодны і добразычлівы дзядзька ці цётка, іх не заменяць, як і самыя прыгожыя райскія мясціны родны куточак. Каб запоўніць гэту душэўную пустэчу, як бы зруйнаваць рытм жыцця, ім як паветра патрэбна псіхалагічная падтрымка – увага і душэўная цеплыня.

Дзякуй Богу, ёсць яшчэ шчырыя сэрцы, якія імкнуцца зрабіць свет лепшым, для якіх сапраўднае шчасце – дапамагаць другім. Нягледзячы на цяжкае эканамічнае становішча ў краіне, незалежныя прадпрымальнікі кампаніі АМВЭЙ з Глыбокага, Полацка і в. Мацюкова В. Ханякоў, В. Зубрэвіч, В. Пялінак, А. Закрэўскі, І. Леднік, С. Страшынскі, А. Казлоў, Л. Шпец, А. Шчановіч, А. Юшкевіч, О. Галоўчык, А. Лапатка, М. Спячонак, А. Рымчонак, В. Волах знайшлі час і сродкі, каб наведаць станульскі прытулак з нагоды пачатку навучальнага года.

Галоўнае не ў коште падарункаў, хаця вялікі прыгожы торт, які выпечаны кандытарамі Глыбоцкага хлебазавода і падаруначаныя камплекты асабістай гігіены кампаніі АМВЭЙ уразілі выхаванцаў. Трэба было бачыць, як блішчэлі радасцю іх вочкі пры сустрэчы. Ужо будзе што сказаць настаўнікам і ганарлівым аднакласнікам у мясцовай школе.

Валерый Ханякоў – часты госць прытулка, і дзеці да яго туліліся як да добра знаёмага дзядзькі. Таму з першых хвілін сустрэчы завязалася шчырая размова. Па чарзе дзеці распавядалі пра сябе, пра свае мары, кім хочуць стаць, калі вырастуць. Уразіла адно: яны выбіраюць прафесіі, каб дапамагаць людзям, якія трапілі ў бяду, – выратавальніка, доктара, спецназаўца.







Прадпрымальнік Валянцін Зубрэвіч (злева) задаволены праведзеным мерапрыемствам.

Потым у спартыўнай зале дзеці разам з валанцёрамі і выхавацелькай Таццянай Васільевай вадзілі карагод і гулялі ў розныя забаўляльныя гульні.

Завяршылася сустрэча салодкім сталом: гарбатай і тортам.

Як паведаміла дырэктар прытулку Валянціна Закрэўская, на кожнае свята ўстанову наведваюць шэфы: Глыбоцкі доследны лягсас, Белаграпрамбанк, частыя госці і прыватныя асобы. На Новы год прадпрыемсва электрычных сетак падаравала 4 ровары.

# У Мінску адбудзецца «Беларуская вечарынка ў стылі Ігната Буйніцкага»

**«Беларуская вечарынка ў стылі Ігната Буйніцкага», прысвечаная 150-годдзю з дня нараджэння акцёра і тэатральнага дзеяча, адбудзецца 15 верасня ў Дзяржаўным музеі гісторыі тэатральнай і музычнай культуры ў Мінску.**

Як паведамілі БелаПАН у музеі, падчас мерапрыемства госці пабачаць, як студэнты Беларускага дзяржаўнага інстытута культуры і мастацтваў «паспрабуюць праспяваць ды пратанцаваць тое, што было пры Буйніцкім»; будзе гучаць хор.

**На мерапрыемства запрошаны прадстаўнікі улады Глыбоцкага раёна Віцебскай вобласці,** Інстытута мастацтвазнаўства і этнаграфіі НАНБ, тэатральныя дзеячы.

З 22 жніўня ў музеі працуе выстава «Ігнат Буйніцкі — бацька беларускага тэатра», на якой паказаны арыгінальныя фотаздымкі, паштоўкі з выявай Буйніцкага і акцёраў яго трупы, копіі афіш і праграм з анонсамі іх выступаў. Экспазіцыя створана з дакументаў з уласнага фонду і фондаў Дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва.

Ігнат Буйніцкі нарадзіўся 22 жніўня 1861 года ў вёсцы Палівачы (зараз Глыбоцкі раён). Скончыў Рыжскае землямернае вучылішча, вучыўся ў прыватнай драматычнай студыі ў Вільні. Вярнуўся ў родныя мясціны, дзе працаваў каморнікам.

Самадзейны тэатр Буйніцкі заснаваў у 1907 годзе на сваёй сядзібе ў Палівачах. Паказваць спектаклі акцёры хадзілі ў Палівачы, Празарокі, іншыя навакольныя вёскі. У рэпертуар уваходзілі невялікія сцэнкі і пастаноўкі паводле твораў Марка Крапіўніцкага, Элізы Ажэшкі, Антона Чэхава, Каруся Каганца, Янкі Купалы, Альберта Паўловіча і іншых. У 1913 годзе тэатр Буйніцкага быў закрыты з-за фінансавых цяжкасцяў. Праз чатыры гады тэатральны дзеяч ініцыяваў арганізацыю Першага беларускага таварыства драмы і камедыі — прафесійнага тэатра ў Мінску, які стаў папярэднікам тэатра імя Янкі Купалы.

У час Першай сусветнай вайны Буйніцкі быў на вайсковай службе ў Маладзечне. 22 верасня 1917 года ён памёр на сцэне падчас рэпетыцыі (ён займаўся салдацкай самадзейнасцю). Яго пахавалі на мясцовых могілках, але пазней перапахавалі ў Празароках на цэнтральнай плошчы.

*Захар Шчарбакоў, БелаПАН.*

# У Лепелі на Дзень горада адкрыўся помнік лепяльчаніну

**Райцэнтр Лепель Віцебскай вобласці 10-11 верасня святкуе Дзень горада — 572-годдзе з дня першага ўзгадвання ў летапісах.**

Свята пачалося з урачыстага адкрыцця помніка жыхару Лепеля. Скульптура, устаноўленая на плошчы Свабоды, так і называецца – «Лепяльчанін». Новы «гараджанін» зроблены ў чалавечы рост, але больш падобны на жыхара вёскі: каля яго ног сядзіць скульптурнае парася. У руцэ «Лепяльчанін» трымае манетку.

Варта адзначыць, што адкрываць новыя помнікі да дня нараджэння горада ў Лепелі стала ўжо традыцыяй. Так, год таму каля ўваходу ў мясцовы парк з'явіўся помнік заснавальніку горада гетману Вялікага Княства Літоўскага Льву Сапегу. А два гады таму да 570-годдзя горада на беразе возера Лепельскае ўстанавілі скульптуру Русалачкі. Беларуская Русалачка, у адрозненне ад вядомай славутасці дацкага Капенгагена, сядзіць не на камені, а на пні, а ў руцэ трымае белы гарлачык.

Як паведамілі БелаПАН у аддзеле ідэалагічнай работы Лепельскага райвыканкама, на працягу двух дзён пройдзе шэраг святочных мерапрыемстваў: радасці выставы, канцэрты, шоу, конкурс ткацтва «Матчыны кросны», спартыўныя спаборніцтвы, дыскатэкі, кірмашы, феерверк. У рамках свята ў Лепелі 10—11 верасня таксама праходзіць трэці этап чэмпіянату Беларусі па джып-трыяле.

*Таццяна Мацвеева, БелаПАН.*

НАРОДНАЯ ПРАГРАМА

www.prahrama.by

■ Уладзімір Скрабатун

**У святле абмеркавання пазітыўнага бачання будучыні Беларусі можна разважаць на шматлікія актуальныя тэмы: грашовая рэформа, як спыніць дэпапуляцыю Беларусі, новы адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел краіны, развіццё фермерства, ахова здароўя… І ўсё вельмі важна! Але тое будзе марна, калі не будзе развівацца малы, сярэдні і буйны бізнес. А бізнес – гэта не толькі жаданне нейкага камерсанта зарабіць шмат грошай і ўладкаваць сваё і сваёй сям'і бязбеднае існаванне. Не!**

**Бізнес – гэта новыя рабочыя месцы ў тваім горадзе, мястэчку, калі не трэба кудысьці далёка ехаць з нажытага месца на заробкі. Гэта і паступленне падаткаў у бюджэт. І не толькі! Гэта новыя гасцініцы, рэстараны, аквапаркі, культурна-забаўляльныя цэнтры, адноўленыя помнікі даўніны…**

**Чаму ніхто не ўкладае грошы (інвестыцыі) у Глыбокае, Дзісну, Друю, Відзы? Чаму, напрыклад, у Глыбокім няма аквапарка? На гэта пытанне адкажа прадпрымальнік – але, найперш, юрыст – Свяціслаў Пацэвіч.**

# Шлях даўно пракладзены

## і не трэба вынаходзіць нейкі свой адмысловы беларускі шлях

**Уладзімір Скрабатун** (далей – **У.С.**): Паважаны Свяціслаў Іосіфавіч, я адмыслова завітаў да Вас па інтэрв'ю. Тэма нашай гутаркі – малы бізнес, праблемы і перспектывы яго развіцця ў свеце пазітыўнага бачання будучыні Беларусі. Лепшага рэспандэнта на гэтую тэму ў Глыбокім я наўрад ці знайду. Зразумела, ёсць у нас і іншыя паспяховыя камерсанты, але ў Вас цэлы букет: Вы – прадпрымальнік, Вы – юрыст, Вы добра ведаеце сітуацыю з малым бізнесам ў Эстоніі… Ну, дык да каго, як не да Вас, мне ісці!

**Свяціслаў Пацэвіч** (далей – **С.П.**): Няма тут пра што казаць! І дыктафон не уключай, Валодзя! Усё марна! Не буду я нічога абмяркоўваць.

**У.С.:** Ну, во! Я ж на Вас так спадзяваўся! І ўсё ж я прыйшоў да Вас не дзеля таго, каб паслухаць крытыку ў бок уладаў. Я не стаўлю такой мэты. Тэма нашай гутаркі – малы бізнес, праблемы і перспектывы яго развіцця ў свеце пазітыўнага бачання будучыні Беларусі. Мы будзем гаварыць пра будучыню. І дапусцім: гэтая будучыня гіпатэтычна, наступіла. Як юрыст і як камерсант Вы добра ведаеце праблему і можаце параўнаць з той жа Эстоніяй, дзе Вы жылі і працавалі. І працавалі не абы кім, а камісарам паліцыі аднаго з раёнаў Таліна. У Вас там засталіся знаёмыя камерсанты. Вы ж і Эстонію перыядычна наведваеце.

**С.П.:** На ўсе праблемы, якія звязаныя з бізнесам, трэба глядзець іншымі вачыма, а не вачыма чыноўнікаў, якія што й робяць – перапісваюць шыльды, змяняюць назвы і думаюць, што нешта зменіцца. Праводзяць семінары, пленумы. Ну і што?

**Па-першае:** павінен быць прыняты Закон аб свабодным куплі-продажы зямлі. Занесена ў Канстытуцыю. Ніякі інвестар сюды не паедзе, пакуль зямля не будзе ў прыватнай уласнасці.

Ну вось у Эстоніі шмат астравоў. Пагранічная зона! У нас бы сказалі: нельга прадаваць! А ў Эстоніі астравы прадаюць. Купляюць эстонцы, прадаюць эстонцам, эстонцы – фінам, фіны – шведам, і бог ведае яшчэ каму… Ну і што! Быў гаспадаром нейкі эстонец Томас, а цяпер кітаец – "сунь хунь чай". Як быў востраў эстонскі, так і застаўся эстонскім. Шведы ж яго ў Швецыю не звезлі, ці кітайцы – у Кітай!

**Па-другое:** адмяніць канфіскацыю маёмасці.

**У.С.:** Дык канфіскоўваюць маёмасць не толькі на Беларусі! У Амерыцы, напрыклад. І слова "канфіскацыя" – не нашае, "імпартнае".

**С.П.:** Правільна! Там канфіскоўваюць толькі маёмасць, якая нажытая злачынным шляхам. У нас жа канфіскоўваюць усё, нават жыллё, якое дасталося ў спадчыну ад бабулі.

**У.С.:** Калі казаць праўду, то я ніколі не задумваўся над гэтым пытаннем. Канфіскацыя мне ўяўлялася пагалоўнай. Забіраюць усё: і дом, і тое, што ў доме, і побач з домам (гараж з машынай). А Вы сцвярджаеце, што за мяжой, у той жа Эстоніі, забіраюць не ўсё, а толькі тое, што нажыта злачынным шляхам.

**С.П.:** Натуральна! У нас жа якія страшылкі людзям кажуць? Ён жа – бандыт! Ён украў 10 машын, прадаў, нажыўся! Як гэта не канфіскоўваць усю маёмасць? Канфіскоўваць!

Правільна, ва ўсім свеце канфіскоўваюць. Але ж там канфіскоўваюць не так, як у нас, усю маёмасць. І што ад бабулі з дзядуляй, ад таты з мамай дасталося – усё забяруць! Трэба забіраць толькі тую маёмасць, якая нажытая ў выніку злачыннай дзейнасці.

**У.С.:** І такая практыка ва ўсім свеце? Я нават такіх дэталяў і не ведаў!

**С.П.:** Дык вось, увесь сэнс – у дэталях! Не ўсё канфіскоўваюць! Вось бабуля, напрыклад, пакінула табе дом і ты ў гэтым доме жывеш ужо 10 гадоў. Пайшоў ты напіўся, даў камусьці па мордзе, забраў кашалёк… Рабунак? Рабунак! Дык трэба ў цябе канфіскоўваць кашалёк, а не бабулін дом. Кашалёк нажыты злачынным шляхам, а не дом!

Ну, а калі гэта камерсант? Арыштавалі рахункі, забралі бізнес, і ўсё, што ёсць, і чалавек – жабрак.

Ну, і хто сюды паедзе інвеставаць у нашу эканоміку? Ніхто! Вось і ўсе інвестыцыі… Няма пра што разважаць.

Я назваў усяго два пункты: 1) Прыняць Закон аб свабодным куплі-продажы зямлі. Занесці ў Канстытуцыю. 2) Адмяніць канфіскацыю маёмасці (акрамя той, якая нажытая ў выніку злачыннай дзейнасці).

Выканайце гэтыя два пункты, якія я назваў вышэй – і ўсё будзе ў нашай краіне нармальна.



**Свяціслаў Іосіфавіч Пацэвіч, юрыст, колішні камісар паліцыі аднаго з раёнаў Таліна, сёння – глыбоцкі прадпрымальнік. Стварыў прыватны музей сялянскага побыту.**

Вось я, напрыклад, гіпатэтычна бізнесмен, будую завод, мільёны даляраў укладаю… Ну як я яго буду будаваць, калі я не ўласнік зямлі? Мне кажуць: бяры ў арэнду на 50 гадоў, потым з працягам. А нафіга мне! Трэба, каб маё было.

Я куплю тут дом, кватэру, будую дом, а мне кажуць: "Выбачайце, зямля не можа быць у прыватнай уласнасці, мы вам яе толькі ў арэндачку здадзім". Ну, які бізнесмен тут будзе будаваць "замак"? На Канарах жа бізнесмены будуюць "замкі"! А чаму на Беларусі не будуюць? А ў нас жа столькі азёраў і клімат роўненькі. Але ж ніхто не едзе будаваць. І чаргі няма. Месца няма дзе будаваць? Ёсць! Прычыну я назваў.

"Замкі" нам не патрэбныя, мы фермы будзем будаваць! У нас як робяць? Будуюць новыя фермы – не мільёны, а мільярды ўкладваюць. Прыганяюць кароў з фермы, дзе была дзіравая страха, у новую, і думаюць, што каровы, убачыўшы новую ферму, будуць даваць больш малака. Не! Як давала яна мала ў старой ферме, так мала будзе даваць і ў новай. Статак трэба мяняць! Так і ў паліцыі, так і ўсюды. Аднаго знялі, іншага паставілі, перавялі ў новае месца, тусуюць аднаго з другім. Але статак застаўся адзін і той жа. Статак трэба мяняць!

**У.С.:** Слухаючы Ваш аповед, я міжволі згадаў адну з паездак ў Варшаву, якая адбылася недзе ў 1997-м ці 98-м годзе. Я ішоў па Варшаве з адным палякам, назавём яго Паўлам. Ён раптам паказвае на "старадаўні" будынак варшаўскай ратушы і кажа: "Памятаеш, у мінулым годзе мы тут былі і на гэтым месцы знаходзіўся газон з зялёнай травой. Сама ратуша загінула ў вайну, а цяпер яе аднавілі".

– А дзе знайшлі грошы на аднаўленне ратушы?– пытае аўтар гэтых радкоў.

– Запомні, Валодзя,– кажа Павел,– у бізнесе няма пытання: дзе ўзяць грошы? У бізнесе ёсць толькі пытанне: колькі трэба? Ратушу аднавіў адзін з польскіх банкаў. Адбудаваная ратуша – яго ўласнасць.

Па прыездзе ў Глыбокае я ўзяў чарцяжы, фотаздымкі і малюнкі глыбоцкай аўстэрыі, якая некалі стаяла на пляцы 17 верасня на месцы сённяшняга фантана, ды пайшоў у БелАграПрамБанк да загадчыка філіяла спадара Жынгеля. Прапанаваў яму аднавіць аўстэрыю. – Будзе вашая банкаўская ўласнасць,– кажу,– аддасцё камерсантам у арэнду пад рэстарацыю, будуць там турыстаў частаваць глыбоцкімі клёцкамі. Паставіце тут яшчэ пункт абмену валюты…

А спадар Жынгель кажа мне: "Вы не блытайце Польшчу з Беларуссю! У Польшчы – банкі прыватныя, а ў нас – дзяржаўныя. Цікавая ваша прапанова, але рэалізаваць яе ў беларускай рэчаіснасці немагчыма!"

Вось яна – праўда жыцця! Глыбокаму патрэбная 15-павярховая сучасная гасцініца? Не пытанне! Ужо 10 гадоў як стаяла б, абы зямля была ў прыватнай уласнасці. І аквапарк быў бы! І Лядовы палац! Усё, што так небходна нашаму гораду ды й вёскам таксама.

**С.П.:** Правільна кажаш! Трэба змяніць толькі два пункты, запісаць у Закон. І ўмовы працы для бізнесменаў істотна зменяцца. Беларусь жа – цэнтр Еўропы! Тут усё папрэ, тут усё закіпіць, усё зашуміць!

Ды й беларускі рубель трэба да чагосьці прывязаць. У Эстоніі раней тая ж крона была прывязаная да дойчамаркі. А ў нас да чаго прывязаны рубель? Яны прывязалі яго да спажывецкага кошыка! Але як адсачыць сітуацыю з курсам на фоне, напрыклад, пяці краінаў, да чаго ў нас прывязаны рубель?

Прыдумляць свой нейкі адмысловы беларускі шлях? Ёсць ужо шлях, які прайшлі ўсе краіны, і прыдумляць нічога трэба. Бяры гатовае! Не існуе ніякага беларускага шляху! Дастаткова пераехаць бліжэйшую мяжу і паглядзець, якое там заканадаўства. Наша ж заканадаўства не стыкуецца ні з расейскім, ні з еўрапейскім. Ні туды яно й не сюды. Ну і што з таго, што мы крычым: наша заканадаўства – самае лепшае у СНД! На што мы раўняемся? На гэтую мыльную бурбалку! Хто з тым СНД у свеце лічыцца?

Вось быў я нядаўна ў Вільні, заходзіў у "Акропаліс" (гандлёвы цэнтр), наведаў мясны аддзел. Усё ёсць! Нават болей, чым у нас! І ніякіх бітваў: ні за харчовую бяспеку краіны, ні за пасяўную, ні за ўраджай! У нас адны бітвы! Штабы нейкія ўзнікаюць! Засталося толькі франты ўтварыць: "паўночны", "цэнтральны", "паўднёвы"… Замiж танкаў – камбайны. І "Прохараўку" трэба недзе сваю стварыць!

**У.С.:** О!!! Ёсць у мяне на гэты конт свой класічны прыклад… Недзе ў 1998-м ездзіла нас з Беларусі цэлы аўтобус у Польшчу на сустрэчу з польскімі грамадскімі арганізацыямі. На шляху ў Люблін заехалі на экскурсію на Лукаўскі мясакамбінат. Пахадзілі, паглядзелі… Усё акуратна, чыста. Сярод нас быў і спадар Мілінкевіч, які дырэктару мясакамбіната задаў некалькі пытанняў, сярод якіх "Дзе вы бераце сыравіну, г.зн. скаціну на ўбой?"

– Мы заключаем дамову з рольнікамі (фермерамі) на гадоўлю скаціны,– кажа дырэктар. – І няхай толькі рольнік не выканае дамову! Прыязджаем у патрэбны час са сваёй фурай да рольніка: узважваем, ацэньваем мясістасць і тлустасць. Разлік – на месцы! Каб не было сезонных збояў, закупляем наперад, захоўваем мяса ў халадзільніку. Камбінат працуе без збояў.

А што ў нас? Цэлы калгас гадуе статак. А ў гэтым калгасе, акрамя старшыні, яшчэ й бухгалтэрыя ў некалькі чалавек, галоўны механік, галоўны інжынер, галоўны аграном, загадчык гаража… доўга лічыць. Дык ці будзе ў нас таннае мяса, малако, збожжа? Не! Датацыі давай! А ў Польшчы гэтым займаецца не калгас, а рольнік. Ну, дапагае жонка, дзеці… Можа і аднаго пастуха наймаюць. Сам рольнік свае грошы палічыць і без бухгалтэрыі і без механіка!

**С.П.:** Я такіх прыкладаў магу прывесці дзясяткі. І як лён у Польшчы вырошчваюць! Таксама рольнік, сын і нявестка – тры чалавекі. 600 га льну. Паўтары-два тыдні па тэхналогіі займае ўборка! У нас жа – бітва! Бачыў адночы сотні дзве чалавек на плошчы, чакалі ад'езду ў калгас. Па некалькі аўтобусаў шэфаў едзе! І чым яны там займаюцца? Да абеду тую сотню чалавек перапісваюць, а потым – абед… І дзе лён таннейшы?

**У.С.:** Добра! Мы ўжо пачалі абмяркоўваць тэму фермерства, хаця й гэта таксама бізнес. Дзякуй за сумеснае абмеркаванне тэмы, Ваша бачанне будучыні як малога, так і буйнога бізнесу.

**Калі вас, паважаныя чытачы, зацікавіла гэтая тэма, дасылайце свае допісы ў рэдакцыю «ВГ» або на сайт westki.info ці ўдзельнічайце ў абмеркаванні на prahrama.by.**

■ А.В. Протас,
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету.*

# За першы раз – секлі пугай, за другі – адразалі вуха, за трэці – каралі смерцю.

### Так абыходзіліся з браканьерамі ў Вялікім Княстве Літоўскім

Беларусь нездарма клічуць сінявокай. Досыць проста зірнуць на карту, каб зразумець: гэта край мноства найпрыгажэйшых рэк і азёр, не выключэнне і Глыбоцкі і Пастаўскі раёны. З такой прыроднай спадчынай умовы для культывавання рыбнай лоўлі як здаровага віду адпачынку – ідэальныя, для развіцця турызму – выдатныя. Аднак патэнцыял нашых вадаёмаў у поўным аб'ёме не выкарыстоўваецца, да таго ж пасля развалу вялікай краіны браканьеры, адчуўшы волю, сталі бязлітасна нішчыць усё жывое ў вадаёмах і лясах, а агульнае бескультур'е набыло велізарны маштаб. У рукатворныя звалкі пачалі ператварацца месцы масавага адпачынку насельніцтва.

Аднак дзяржава не стала ігнараваць узніклыя праблемы і неадкладна былі прыняты меры па навядзенні парадку ў прыродаахоўнай сферы. Толькі за апошнія гады дзясяткі тысяч браканьераў і парушальнікаў парадку панеслі суровыя пакаранні за нанесеную прыродзе шкоду, з іх спагнаны мільярды рублёў.

Браканьерства падобна крадзяжу, якое выкараніць няпроста. Нездарма яшчэ ў статуце Вялікага Княства Літоўскага за 1588 год за браканьерскую лоўлю рыбы прадугледжваліся суровыя пакаранні: сячэнне пугамі за першы раз, за другі раз – адразанне вуха, пакаранне смерцю – за трэці. Калі судзіць па апошніх пяці гадах, то жаласная доля магла б спасцігнуць сотні чалавек, якія здзейснілі факты браканьерства.

Так, жыхар в. Запрудзе Глыбоцкага раёна Заяц Юрый Аляксандравіч у 2010 годзе двойчы прыцягваўся да адказнасці за браканьерства, па законах Вялікага Княства Літоўскага ўжо хадзіў бы без вуха.

І такіх, на жаль, шмат. Можа быць, гэта і суровая мера, але ў тыя часы была вельмі неабходная. Зараз законы больш гуманныя і целавыя пакаранні не ўжываюцца.

Яшчэ адна праблема - экалагічная. Шматлікія вадаёмы, прыбярэжная паласа і лясныя масівы захламленыя. Прычына банальная – чалавечае бескультур'е. Назіраецца небывалая цікавасць народа да рыбалкі, колькасць рыбаловаў павялічылася ў дзясяткі разоў. Зрэшты, не рыбаловаў, а людзей з вудамі, якія з праўдзівымі рыбакамі «побач не стаялі». Многіх з так званых «рыбакоў» можна смела аднесці да ліку звычайных п'яніц. Яны і лавіць рыбу толкам не ўмеюць, а прыбіраць за сабой – тым больш. Для прыкладу наведайце вадасховішча «Азерцы» і пераканайцеся, колькі там рознага хламу пакінута пасля такіх рыбакоў: трэба не адзін трактарны прычэп, каб вывезці смецце, ніводны арандатар не паспее яго прыбраць.

Мы яшчэ не адвыклі ківаць на іншых, лічачы, штохтосьці (найперш дзяржорганы) абавязаны вырашаць праблемы экалогіі, клапаціцца пра захаванне прыродных багаццяў. Пры гэтым не задумваемся над тым, якія страты прыродзе наносім непасрэдна мы самі, кіруючыся прыказкай «пакуль гром не грымне, мужык не перахрысціцца». Так, гэта наша праблема, але дзяржава ад яе не адхрышчваецца, а зусім наадварот, вырашае яе ўсімі сіламі. А свой невялікі маналог пра захаванне прыроды хацелася б скончыць словамі з песні Алы Пугачовай: «море счастья обмелело, и река любви замерзла, но осталось озеро надежды», надзеі, што ўсё ў нас будзе добра.

Пра ўсе парушэнні Вы можаце паведамiць па тэлефонах: 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 8-02156-28670 «гарачая лінія» – кругласутачна.

# «Magnificat» аб'яўляе пераможцаў

**«Старайцеся, каб наш свет быў больш дасканалы, больш духоўны», — з такімі словамі звярнулася да ўдзельнікаў фестывалю старшыня журы пісьменніца Крыстына Лялько. Цырымонія абвяшчэння пераможцаў і ўзнагароджання адбылася ў Глыбокім 10 верасня 2011 г. у апошні дзень VII Міжнароднага каталіцкага фестывалю хрысціянскіх фільмаў і тэлепраграм «Magnificat».**

**Гран-пры атрымаў** дакументальны фільм «Лабірынт» (ЗША-Польшча). Аўтары сцэнарыя — Джэйсан А. Шміт і Рон Шміт SJ.

**Лепшай тэлепраграмай** журы прызнала тэлевізійную праграму «Смерцьдзіцяці»(Telewizja Polska, Польшча); аўтар сцэнарыя і рэжысёр – Кшыштаф Журоўскі.

Прыз за **лепшы дакументальны фільм** атрымала стужка «Таямніцы Міжгор'я» (RAI «La storia siamo noi», Італія); аўтар сцэнарыя і рэжысёр — Элізабэта Кастанья.

Дыпломам і прызам дзіцячага журы «За лепшы анімацыйны фільм» адзначаны анімацыйны фільм «Оська-сваты» («Анімас», Расія); аўтар сцэнарыя і рэжысёр — Наталля Мальгіна.

**Спецыяльнымі прызамі ўзнагароджаны:**

1) *Прыз кангрэгацыі айцоў францішканцаў* «За высокапрафесійнае кінематаграфічнае даследаванне складанага чалавечага шляху да Бога і веры»

Дакументальны фільм «Вялікдзень на Лысай гары» («Студыя імя Св. Яна Воіна», Беларусь)

Аўтар сцэнарыя і рэжысёр — Ёанна Арлова

2) *Прыз Каталіцкай асацыяцыі для камунікацый «Signis-Беларусь»*

«За яскравы кінематаграфічны заклік да гуманізму і асэнсавання хрысціянскай патрэбы несці добра людзям, якім яно асабліва неабходна»

Тэлевізійная праграма «Дастукацца да нябёсаў»

(Праграма «Прафесія: рэпарцёр», канал НТВ, Расія)

Аўтар сцэнарыя: Вадзім Такмянёў

Рэжысёр: Ілля Бялоў

3) *Прыз Міжнароднага каталіцкага фестывалю «Niepokalanów» (Польшча)*

«За мастацкае адлюстраванне сучасных пошукаў гістарычнай праўды і вытокаў святасці тых, хто да трагічнага канца жыцця заставаўся верным Богу і веры"

Дакументальны фільм «Святыя. Ахвяры Бутаўскага палігона»

(Тэлекампанія «Sky Production» па замове тэлеканала ТВЗ, Расія)

Аўтар сцэнарыя і рэжысёр — Аляксандр Купрын

4) *Прыз старшыні Інстытута Нацыянальнай Памяці*

«За ўвасабленне сапраўднага вобразу Пастыра ў беларускім кінематографе»

Дакументальны фільм «Дзеці ксяндза Шаплевіча» (Літва)

Аўтар сцэнарыя — Алена Антанішына

Рэжысёр — Зоя Катовіч

5) *Спецыяльны дыплом і прыз старшыні фестывалю* «За дапамогу ў правядзенні VII Міжнароднага каталіцкага фестывалю хрысціянскіх фільмаў і тэлепраграм „MAGNIFICAT '2011"» Магдзе Качмарэк, супрацоўніцы Міжнароднай грамадскай арганізацыі «Дапамога Касцёлу ў патрэбе» («Kirche in Not»)

6) *Прыз глядацкіх сімпатый і дыплом*

Дакументальны фільм «З Калядамі, Уладзімір»

(Antea production, Францыя)

Аўтар сцэнарыя і рэжысёр — Уладзімір Казлоў

7) *Прыз дырэктара бюро адукацыі публічнай Інстытута Нацыянальнай Памяці*

«За глыбокае і таленавітае ўвасабленне памяці аб ахвярах сталінізму»

Дакументальны фільм «Святыя. Ахвяры Бутаўскага палігона» (Тэлекампанія «Sky Production» па замове тэлеканала ТВЗ, Расія)

Аўтар сцэнарыя і рэжысёр — Аляксандр Купрын.

***Catholic.By***



# У Швецыі п'янага лася знялі з яблыні

**Вярнуўшыся ў мінулы аўторак дадому, жыхар горада Сара (пад Гётэборгам) пабачыў у суседскім садзе лася, які захрас паміж галінак яблыні.**

На зямлю звісала толькі адна нага жывёліны.

Мяркуючы па ўсім, лось наеўся гнілых яблык, што ляжалі на зямлі, захмялеў і палез па новую порцыю на дрэва. У працэсе даставання ён аступіўся і павіс на дрэве.

Прыйшлося выклікаць пажарных. Апынуўшыся на цвёрдай паверхні, лось без сіл паваліўся на зямлю і так праспаў да раніцы. Пасля чаго (мяркуючы па выглядзе) бедалага, пакутуючы ад пахмелля, пабрыў дадому.

Ласі нападпітку не рэдкасць у асенняй Швецыі: на зямлі валяецца шмат гнілых і перабрадзілых яблык, якімі ласі з радасцю ласуюцца.

## МНС інфармуе
### на 06.09.2011 года:

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 973;
Гібель людзей – 143 , з іх 3 дзіцяці;
Урон – 368066 млн. руб.
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 46;
Гібель людзей – 7, з іх дзяцей няма;
Урон – 267 040 132 руб.

# Сусветнае анлайн-галасаванне за лагатып правоў чалавека – да 17 верасня




Пачынаючы з мая 2011 г., праводзіцца міжнародны анлайн-конкурс па стварэнні лагатыпа правоў чалавека. Было даслана 15 375 прапаноў па афармленні лагатыпу з больш чым 190 краін.

Праекты 10 фіналістаў, якіх выбрала журы, вылучаны на галасаванне! З 27 жніўня па 17 верасня 2011 г. на сайце www.humanrightslogo.net кожны можа прагаласаваць за свайго фаварыта.

Лагатып-пераможца будзе прадстаўлены 23 верасня 2011 г. у Нью-Ёрку падчас сесіі Генеральнай асамблеі ААН.

Галасуйце на сайце www.humanrightslogo.net




## Аляксандра Іванавіча Хайноўскага

### Ад усёй душы віншуем з юбілеем!

Наш дорогой, любимый и бесценный,
Внимательный и чуткий человек,
Такого не найти во всей Вселенной,
Тебе за всё обязаны вовек.
Себя ты ни минуты не жалеешь,
Живёшь для близких и родных людей,
В беде, проблемах поддержать умеешь,
И нету никого тебя мудрей.
Так в светлый праздник своего рожденья
Ты наши поздравления прими.
Ты только будь! Ты нужен нам, любимый,
И пусть Господь тебя всегда хранит.



***Дачка, зяць, унук Ягор.***

